© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

### У НУМАРЫ




# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 39 (761) БЕЛАСТОК 27 ВЕРАСНЯ 1970 г. ЦАНА 60 гр.


## УВАГА! УВАГА!

**ужо хутка**

## ПАЛЕСКІЯ РАБІНЗОНЫ

Прымаючы пад увагу пажаданні нашых настаўнікаў, у кастрычніку мы пачынаем друкаваць прыгодніцкую аповесць Янкі Маўра «Палескія рабінзоны». Будзе яна так друкавацца, каб можна было з паасобных урыўкаў злажыць кніжку. Такім чынам нашы чытачы кожны год атрымаюць бясплатна пару цікавых кніжак. Будуць яны мець сваю серыю: «Бібліятэчка «Нівы». Думаем, што спадабаецца яна нашым чытачам. Будзем выбіраць сюды найцікавейшыя творы з беларускай літаратуры. «Палескіх рабінзонаў» друкуем па спецыяльнаму заказу настаўнікаў, але мы ўпэўнены, што цікавую аповесць вядомага беларускага пісьменніка з прыемнасцю прачытаюць не толькі вучні, але і старэйшыя чытачы.

*Чакаем наступных заказаў. Просім таксама дасылаць свае заўвагі.*



*Ніна Мушынская (у цэнтры) сярод гарадоцкага калектыву.*
*Фота Цаф — Сянько*




Мінулы гаспадарчы год быў вельмі неспрыяльны для хлебаробаў Беласточчыны. А вось ужо час асенніх пасеваў. Ад іх падрыхтоўкі і спраўнага правядзення залежыць ураджай наступнага года. Дык што чуваць пра асеннія пасевы?

### У ЗАБЛУДОВЕ

Гаворыць старшыня Прэзідыума ГРН З. Каспшак:

— У пачатку верасня атрымалі мы з Познанскага ваяводства 156 тон адборнага пасяўнога збожжа на планавае аднаўленне жыта. Апрача гэтага, мелі мы яшчэ 10 тон насення, якое прызначалася на падтрымку для тых гаспадароў, якія ў гэтым годзе не змаглі нарыхтаваць уласнага насення. Гэтага было нам дастаткова, каб у асноўным забяспечыць патрэбы нашых сялян. У гэтым годзе маем абсеяць 1479 гектараў жытам і 45 гектараў пшаніцай. У нашай грамадзе маем звыш 1000 гаспадароў. Абавязаны яны ў гэтым годзе прымяніць па 90 кг хімічна чыстага рэчыва мінеральных угнаенняў на 1 га пад збожжавыя пасевы і па 200 кг на сенажаці. Продаж штучных угнаенняў праходзіць у нас даволі спраўна.

### У ХРАБАЛАХ

Ад самага пачатку верасня, калі толькі дазваляла надвор'е, ва ўсіх вёсках храбалоўскай грамады грукаталі абмалотачныя агрэгаты. Сяляне рыхтавалі збожжа пад асеннія пасевы і на абавязковыя пастаўкі. Васіль Кірылюк з Кнаразоў, Аляксандр Нікалаюк з Райска і многа іншых гаспадароў ужо поўнасцю разлічыліся з дзяржавай. Даволі спраўна ідзе таксама продаж штучных угнаенняў. У гэтым годзе сяляне з Храбалоў і навакольных вёсак маюць абавязак пасеяць на полі 115 кг НПК, а на сенажаці 200 кг НПК на 1 гектар. Да 6-га верасня купілі яны ўжо амаль 85 тон штучных угнаенняў.

Планавае аднаўленне пасяўнога матэрыялу праведзена было тут у мінулым годзе. У гэтым годзе аднаўлялі толькі пшаніцу. Мясцовы ГС атрымаў аднак ледзь 10 тон пшанічнага насення. Не абышлося тады без сварак і зайздрасці сярод сялян. Так прынамсі гаварыў сакратар храбалоўскай ГРН А. Трахімчук.

### У НУРЦЫ

Грамада Нурэц знаходзіцца ў Сямяціцкім павеце. Наплываюць адтуль даволі трывожныя весткі.

— На весну прапала ў нас ад снежнай плесні, — гаворыць аграном Т. Тэрэшкоўскі, — аж 50% азіміны, а цяпер

Працяг на стар. 4

З УСПАМІНАЎ НІНЫ МУШЫНСКАЙ




ГОД 1956.

На дзень 26.II. арганізацыйны камітэт арганізаваў першы з'езд Беларускага грамадска-культурнага таварыства. У працах арганізацыйнага камітэта прымала ўдзел і я. Была адказная за мастацкую частку І-га з'езда. У гэтай мастацкай частцы меў выступіць і наш калектыў з Гарадка побач з хорам з Белавежы. Моцны сапернік! Той хор быў на чатыры галасы, вёў яго добры спецыяліст з доўгагадовай практыкай. Мы з хорам белавежскім сустракаліся ўжо на цэнтральным аглядзе ў Ольштыне. Там яны занялі горшае месца ад нас. Але нягледзячы на гэта, мы рыхтаваліся старанна да гэтай новай сустрэчы. У праграму сваю ўвялі новыя песні. Не адбылося без нашых уласных прыпевак. Я іх улажыла спецыяльна на з'езд. Дзве звароткі адной прыводжу:

Дэлегаты ёсць з Саколкі,
З Бельска Падляшскага і з Гайноўкі,
Сямяціцкіх хоць не шмат,
Байкі, зробяць людзі лад.

Ўсе мы з'ехаліся тут,
Каб пазнаць новы статут.
Каб ад дзісь яшчэ мацней
Скрапіць дружбу ўсіх людзей.

З'езд адбываўся ў гмаху ТППР у Беластоку. Былі прадстаўнікі з Міністэрстваў культуры і ўнутраных спраў, з ЦК партыі, гаспадары ваяводства, журналісты мясцовыя і з Варшавы. Кожную нашу песню госці прымалі бурай воплескаў. Пасля з'езда мы атрымалі адразу аж два запрашэнні да выступленняў: у Варшаву і тэатр Вянгеркі ў Беласток.

*

Месяц чэрвень гэтага года мне запомніўся вельмі моцна. Колькі вялікіх здарэнняў я перажыла! У канцы чэрвеня я была ў Варшаве на сялянскім кангрэсе. Праходзіў ён у Кангрэсавай зале Палаца культуры. Я сядзела ў Прэзідыуме кангрэса. Побач — дэлегацыі Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі і члены нашага ўрада. У першы дзень мы слухалі даклады. А на другі дзень у 10 гадзін раніцы выехалі ў гмах Рады Дзяржавы. Тут сам старшыня Рады Дзяржавы Аляксандр Завадскі адзначыў мяне залатым крыжам заслугі і запрасіў на вечар на сяброўскую сустрэчу. Я думала сабе: першы і апошні раз я сустракаюся так непасрэдна з членамі ўрада і таварышамі з Цэнтральнага Камітэта. Мне, простай вясковай жанчыне, усё гэта выдавалася сном.

Увечары я сядзела за сталом адзначаных, за якім сядзелі Аляксандр Завадскі, Юзэф Цыранкевіч і іншыя высокія асобы нашай дзяржавы.

ГОД 1958.

У пачатку студзеня я збіралася ехаць у Кентшын на прысягу сына. І вось зусім нечакана ўбягае былы сакратар ГП БГКТ А. Казёл: «Мушынская, золатка, столькі разоў вы ратавалі крытычныя сітуацыі, памажыце і цяпер. Трэба ехаць на ўрачыстасці, прысвечаныя 40-годдзю ўзнікнення БССР. Вечар будзе ў Варшаве, у Нацыянальнай філармоніі». Я прыхворвала крыху, і не ішла добра ў нас тады культурная праца. Але што было рабіць? Мы хутка сабралі мужчынскі

Працяг на стар. 4




### СЭРЦА ШАПЭНА

Сто дваццаць гадоў назад у Парыжы
Канаў Фрэдэрык Шапэн.
Канаючы, ён прасіў,
Каб сэрца ягонае там пахавалі,
Дзе біцца яно пачало,
Дзе родная польская песня
Над роднай зямлёю лунае.
І сэрца Шапэна ў каштоўным сасудзе
Завезлі ў Варшаву сябры
І там у касцёле Святога Крыжа
Замуравалі ў калоне,
Закрылі плітой мармуровай...
Амаль сто гадоў з той пары прамінула,
На Польшчу вылюдак-вораг напаў,
Яе заняволіў і да магільнага рова
Па слоце і снезе пагнаў басаног на расстрэл.
Народу і песні гразіла смерць.

Тады змагары святыню Польшчы —
Сасуд, дзе музыкі вялікага сэрца, —
Дасталі з-за мармуровай пліты
І ў спраце надзейным схавалі,
Каб сэрца Шапэна на здзек не пакінуць.
Пасля перамогі дасталі яны
Сасуд запаветны са спрату...
Яшчэ прамінула чвэртак стагоддзя.
Стаю я ў касцёле Святога Крыжа
Каля запаветнай калоны
І слухаю моўчкі, як б'ецца
За мармуровай плітою
сэрца Шапэна,
Радзіме адданае сэрца.

*Аляксей Зарыцкі*

МОЙ РОДНЫ КУТ...



*Белавежа. Фота: Я. Цялушэцкі*

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## У НАШЫХ САМАДЗЕЙНІКАЎ



*Трыо з вёскі Мікулічы, Сямяціцкага павета. Вера Манцюк, Марыя Манцюк і Надзя Нікалаюк. Фота Цаф — Сянько.*

## ЗА ПАШЫРЭННЕ ПАНЯЦЦЯЎ

У Сакольскім павеце беларускія кніжкі знаходзяцца ў шасці бібліятэках. Гэта — Саколка, Вярхлессе, Крынкі, Шудзялава, Гураны і Бабікі. Бібліятэкары аднак настаўлены толькі на забеспячэнне патрэб беларусамоўнага чытання, а не на пашырэнне яго. Хто хоча такую кніжку, калі ласка, ёсць яна. Прапаганда беларускай кніжкі, агітацыя да чытання яе ў гэтым павеце ніколі не існавала ў сістэме дзяржаўных вясковых бібліятэк. Так яно засталося і па сённяшні дзень. Вынікі такога становішча відаць: на агульную колькасць 1.389 кніжак на беларускай мове чытае час ад часу ўсяго 47 чытачоў з шматтысячнага ліку іх у гэтых бібліятэках. Словам, дайшло да такой сітуацыі, што гаворыцца ўжо аб бяссэнсе закупак новых беларускіх кніжак, якіх і так жа амаль ніхто не чытае ды чытаць не будзе... Непатрэбна займаюць яны месца на паліцах, якое можна б выкарыстаць на іншыя кніжкі...

Падлікі беларускіх чытачоў за апошні квартал сведчаць нават аб тым, што ёсць іх ужо не 47, але 35, а то і менш. Штораз менш і менш. Смешна мала.

У павятовай бібліятэцы ў Саколцы давялося мне пачуць «святое» абурэнне на пастаўлены закід адсутнасці агітацыі за пашырэнне лічбы чытачоў беларускіх кніжак. Абурэнне гэтае мела наступную логіку: чытачоў не будзем вучыць беларускай мове, не будзем заганяць іх да чытання беларускіх кніжак, няхай настаўнікі ў школах вучаць гэтай мове, няхай добра вучаць, а не так, як дагэтуль, абы-як, на смех людскі, не дбаючы аб аўтарытэце прадмета беларускай мовы ў школе, трактуючы яго як дадатковы заробак, без нацыянальнай эмацыянальнасці і таму не дзіва, што з прадмета такога выходзіць ні рыба, ні мяса...

Шчыра кажучы, ёсць у тым шмат горкай праўды, але не аб ёй месца гаварыць тут. Уразіла мяне што іншае, менавіта, паняцце бібліятэкі, як нейкага магазіна з хлебам, соллю, цукрам, мукою, — купляе той, хто не можа без таго ці другога абысціся... Дарэчы зазначыць, што сучасны гандаль, разумны гандаль, не чакае пакупніка, але здабывае яго, уводзіць новыя тавары, вучыць карыстацца імі, паказвае карыснасць, робіць запатрабаванне. Во, робіць запатрабаванне, якое ніколі ў гісторыі не ўзнікала само па сабе, заўсёды было зробленае. Запатрабаванне на беларускае слова трэба зрабіць, трэба рабіць, яно не расліна, самое не вырасце. Кіруючыся розумам павятовай бібліятэкі ў Саколцы, дык мы не рушым ні на крок уперад справы культурна-нацыянальнага развіцця мясцовага насельніцтва. Трэба спачатку навучыць любіць роднае слова, каб потым толькі стаяць за бібліятэчным прылаўкам і адно паспяваць выдаваць гэтыя кніжкі для соцень і тысяч чытачоў іх.

Гэтымі словамі не хачу сказаць, што ўсё залежыць ад бібліятэкараў. Не, не ўсё, нават і не палавіна. Гэтымі словамі хацелася мне даказаць толькі тое, што бібліятэка — не крама, але пляцоўка актыўнасці і руху наперад цэлага асяроддзя, у якім трэба выломваць нядобрае, насаджаць добрае, шырыць яго ў свядомасці і ва ўчынках, вытручваць нягодныя звычкі, якія перашкаджаюць нарастанню пачуцця годнасці свайго «я», роднай культуры, мовы.

У бібліятэцы ў Крынках 257 беларускіх кніжак, а чытачоў іх усяго два; у бібліятэцы ў Шудзялаве 276 беларускіх кніжак, а чытачоў — 8, у Гуранах 295 кніжак і 8 чытачоў (год таму назад было 13), у Вярхлессі — 121 і 4 чытачы, у Бабіках на 350 кніжак — 13 чытачоў іх, а ў Саколцы знаходзіцца 90 беларускіх кніжак, якіх наогул ніхто не чытае (быў адзін чытач, ды памёр).

Кажуць, нішто так не пераконвае, як лікі.

*С. Я.*

**БРАТЫ-СУСЕДЗІ**

## МОВА МАСТАЦТВА ЎСЮДЫ АДНА

*Беласточчына шматлікімі ніткамі дружбы і супрацоўніцтва звязана з Гродзенскай вобласцю ў БССР. Водгукам гэтай дружбы было запрашэнне дырэктара Гродзенскага драматычнага тэатра, заслужанага дзеяча мастацтва Аляксандра Струніна ў Беласток для пастаноўкі на Беластоцкай сцэне спектакля «Неспакойная старасць». Л. Рахманава. П'еса, прысвечаная ленінскай тэматыцы, ставілася ў сувязі са святкаваннем 100-ай гадавіны з дня нараджэння Леніна.*

*Аляксандр Струнін быў рэжысёрам «Неспакойнай старасці», і пастаноўка яго карысталася вялікім поспехам у гледачоў. З гэтай жа пастаноўкай беластоцкі тэатр выступіў на фестывалі тэатраў паўночнай Польшчы ў Торуні вясной 70 года. Рэжысёр удзельнічаў таксама ў фестывалі. Потым напісаў аб сваіх ўражаннях і ўвагах. Ніжэй прыводзім фрагменты.*

### У БЕЛАСТОКУ

Дырэктар і галоўны рэжысёр Беластоцкага тэатра Браніслаў Орліч, увесь калектыў тэатра аказалі мне сардэчны прыём і зрабілі ўсё, каб я меў як найлепшыя ўмовы для працы.

Рэпетыцыі нашы праходзілі з вялікім пад'ёмам. Выканаўцы адразу адчулі прыгажосць рахманаўскага твора. Рэвалюцыйная рамантыка, яскравыя чалавечыя характары, дынаміка здарэнняў выклікалі ў выканаўцаў той творчы імпульс, без якога немагчымы быў бы сапраўдны творчы працэс.

У пачатку маёй працы з беластоцкім калектывам я баяўся, што слаба ведаю польскую мову. Аказалася, што я дарма баяўся. Пераклад быў дасканалы, і я ўжо праз два дні ведаў увесь польскі тэкст. Падрабязна разумеў кожнае слова. І так, «моўныя бар'еры» зніклі ўжо ў пачатку нашай працы. А разумеліся мы яшчэ лепш і таму, што мова мастацтва ўсюды адна і вядома ўсім.

Прэм'ера «Неспакойнай старасці» адбылася напярэдадні 50-ай гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі і Дзён культуры Расійскай Федэрацыі. Была горача прынята беластоцкім гледачом. Потым я з прыемнасцю даведаўся, што білеты на «Неспакойную старасць» раскупляліся на некалькі тыдняў наперад.

Выдатны ансамбль, дасканалы выканаўца ролі прафесара Палежаева, малады і таленавіты артыст Генрык Длужынскі, сардэчная і чуллівая Данута Карыцкая, выконваючая ролю Марыі Львоўны — жонкі Палежаева, — усё гэта разам запэўніла вялікі поспех беластоцкага спектакля.

### У ТОРУНІ

Торуньскія фестывалі заўсёды прыцягвалі ўвагу тэатральных дзеячаў сацыялістычных краін. Ад Савецкага Саюза прысутнічалі на гэтых фестывалях як ганаровыя госці: мастацкі дырэктар тэатра «Современник» Алег Ефрэмаў, галоўны рэжысёр ленінградскага тэатра імя Ленінскага Камсамола Ігар Уладзіміраў, кіно-рэжысёр Сяргей Герасімаў, вядомы літоўскі акцёр Данатас Баніоніс.

Мне з пачуццём вялікага творчага і грамадзянскага задавальнення хочацца адзначыць поспех у Торуні «Неспакойнай старасці» ў выкананні беластоцкага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі. Сакрэт гэтага поспеху заключаецца галоўным чынам у бліскучым выкананні ролі прафесара Палежаева таленавітым артыстам Генрыкам Длужынскім. Палежаеў у яго выкананні прадставіўся нам у надзвычай эмацыянальнай форме, з бурлівай рэакцыяй, з вострым аптымістычным адчуваннем жыцця, з выразным інтэлектам. У Длужынскага - Палежаева асабліва моцныя эмацыянальна-псіхалагічныя ўзлёты ў моманты вострай унутранай канфліктнасці, напрыклад, у сцэне сутыкнення яго з Вараб'ёвым. У гэтай сітуацыі Длужынскі выдатна раскрывае складаны рух сваёй вялікай душы, непрымірымасць і бескампраміснасць у пытаннях навукі і патрыятызму. А сцэна, калі Палежаеў-Длужынскі выступае перад матросамі ідучымі на фронт?! Змучаны, слабы, але ўсхваляваны і моцны духам, гатовы «таптаць ворага ножкамі свайго пісьменнага стала» — устае перад намі на ўвесь рост высакародны воблік старога вучонага. Гэты маналог перад матросамі выклікае ў зале вялікую эмацыянальную рэакцыю, шчырыя і дружныя апладысменты.

І нарэшце апошняя сцэна — размова Палежаева па тэлефоне з В. І. Леніным. Колькі цёплай, трапятлівай усхваляванасці, гарачай удзячнасці Леніну гучыць у інтанацыях Палежаева-Длужынскага! Цудоўны акцёр! І як хочацца, каб захаваў ён і памнажаў свой вялікі талент!

*Аляксандр Струнін*

## ЭКСКУРСІЯ Ў МІНСК І ВІЛЬНЮС

Ад 14-га да 20-га жніўня гэтага года адбывалася экскурсія ў Мінск і Вільнюс, арганізаваная Галоўным праўленнем БГКТ. Прымалі ў ёй удзел перш за ўсё актывісты Беларускага таварыства а, між іншым, намеснік старшыні ГП тав. Мікалай Самоцік, члены ГП тав. Аляксандр Іванюк, Мікалай Суліма, кіраўнік культурна-асветнага аддзела ГП Уладзімір Паўлоўскі і іншыя.

У Мінску мы былі два дні. Напэўна, замала як на сталічны горад. Мінск сваёй прыгажосцю зрабіў глыбокае і прыемнае ўражанне. Відаць гэта было па ўдзельніках экскурсіі, адчувалася гэта ў дыскусіях. Асабліва кідалася ў вочы шмат зелені на вуліцах, іх выключная чыстата. Цікавым з'яўляецца і тое, што як на амаль мільённы горад, не відаць было нідзе вулічных затораў.

У гэтыя дні наведалі мы Музей Янкі Купалы і Беларускае таварыства культурнай сувязі з заграніцай. Тут дэманстраваліся для нас два фільмы аб гісторыі адбудовы краіны і сталіцы пасля Айчыннай Вайны і аб культурным жыцці БССР.

Пабывалі мы таксама ў Музеі Айчыннай Вайны і на Кургане Славы. Курган Славы — выраз ушанавання тых, хто аддаў жыццё за свабоду Беларусі. Насыпаны рукамі грамадзян Мінска. Трэба памятаць, што ў вайне з фашысцкім зверам загінуў кожны чацверты беларус. На Беларусі ж дзейнічала 374000 партызан. Мінск з'яўляўся адным з найбольш разбураных гарадоў Савецкага Саюза. Цяперашні Мінск — гэта сімвал квітнеючай Беларусі, горад прыгожых дамоў, шырокіх вуліц і надта добразычлівых людзей. У кожным месцы адчувалася ветлівасць яго жыхароў. Не агледзеліся мы, як ужо трэба было ад'язджаць. Перад намі яшчэ была экскурсія ў Вільнюс.

Гэта горад іншага тыпа, горад, прыпамінаючы сваім выглядам Кракаў. Тут мы наведалі Вострую Браму, аб якой пісаў Адам Міцкевіч у паэме «Пан Тадэуш». Пабывалі таксама ў замку Гедыміна, які заснаваў сталіцу Літоўскай ССР. Асаблівай увагі заслугоўвае Этнаграфічны музей з бясцэннымі ў многіх выпадках экспанатамі матэрыяльнай і духоўнай культуры Літвы. На працягу трох дзён прабывання ў Літве давялося таксама паглядзець замак Вялікага Князя Літоўскага Вітальда ў Троках — помнік архітэктуры XV стагоддзя. На заканчэнне адбылася цікавая сустрэча з камсамольскай арганізацыяй адной з перадавых вільнюскіх фабрык, якая прадукуе часці для тэлевізараў. Сустрэлі там нас вельмі цёпла. Адбылася экскурсія па фабрыцы, а потым сардэчная размова, якая дапамагла нам вырабіць шырэйшы погляд на жыццё і дасягненні Літоўскай ССР.

Цікавая экскурсія. Я думаю, што арганізаванне такіх паездак ў будучыні стане добрай традыцыяй у дзейнасці БГКТ.

*Уладзімір Паўлоўскі*



*Актывісты БГКТ на плошчы Перамогі ў Мінску. Фота В. Бура.*

### ШТО З ГУРТКОМ У АРЭШКАВЕ?

Вядомы аматарскі гурток у Арэшкаве, Гайнаўскага павета, ад нейкага часу занепаў. Магчымасці мастацкай самадзейнасці тут, як на вясковыя ўмовы, вельмі добрыя: ёсць сцэна, добра абсталяваная зала, працаўніца святліцы М. Корзун, якая завочна спецыялізуецца ў рэжысерыі мастацкага спектакля, нарэшце, шмат і ахвотнай моладзі.

У надыходзячым асенне-зімовым сезоне культурна-асветнай дзейнасці ўжо ёсць амбітныя намеры ажыўлення аматарскага руху ў вёсцы і нават уздыму яго на вышэйшы ўзровень. Справа толькі ў тым, каб асабістыя фанабэрыі не ўзялі верх.

(ся)

ЧЫТАЙЦЕ і РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ «Ніву»!



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

(Працяг са стар. 1)

# ЧТО ЧУВАЦЬ?

у жніво многа жыта парасло ў снапах. Дождж не дазваляў сялянам высушыць яго і звесці. Ураджай тады выпаў па нейкіх 10 цэнтнераў з аднаго га. Сяляне амаль што не маюць уласнага насення. Склалі мы заказ на 22 тоны пасяўнога матэрыялу. Атрымалі ледзь 2,5 тоны. Гэта кропля ў моры. Проста не ведалі, як дзяліць. Сяляне зусім слушна нервуюцца.

### У ЧЫЖАХ

Старшыня Прэзідыума ГРН у Чыжах М. Брук найперш інфармуе нам аб продажы штучных угнаенняў. Каб спраўней абслужыць сялян, у вёсках Курашэва, Лянева, Чыжы і Збуч былі наладжаны аенцыйныя пункты продажу мінеральных угнаенняў. Відаць, ідэя была слушная, бо продаж праходзіў вельмі спраўна. План першага квартала новага гаспадарчага года грамада Чыжы нават перавыканала, хаця гэты план быў даволі высокі: на 1 гектар поля сяляне там абавязаны пасеяць 120 кг НПК, а на сенажаці 220 кг НПК.

Каб добра падрыхтаваць насенне, сельскагаспадарчыя гурткі купілі машыны для запраўкі зерня. Гэтыя машыны знаходзяцца ў кожнай вёсцы. Тутэйшыя сяляне, на шчасце, не мусяць азірацца на дапамогу дзяржавы. У гэтым годзе атрымалі яны ўраджай па 17—19 цэнтнераў з гектара.

### У ДУБІЧАХ ЦАРКОЎНЫХ

Аказваецца, што тут не было чым сеяць. Сельскагаспадарчы гурток мае старыя сеўнікі, якія купілі яшчэ 10 год таму назад. Яны безупынна псаваліся. А новых, як гаворыць старшыня Прэзідыума ГРН у Дубічах — М. Чыквін, мабыць, няма дзе купіць.

На дапамогу сялянам атрымалі яны 3 тоны жыта і амаль 7 тон пшаніцы. Трэба было б больш, бо ўраджай у Дубіцкай грамадзе вельмі слабы, у сярэднім ледзь 8—10 цэнтнераў з гектара. На шчасце, сяляне на крэдыт купляюць мінеральныя ўгнаенні і спадзяюцца, што ў наступным годзе адаб'юць свае страты. Вось Альяш Масальскі, Уладзімір Панфілюк і Васіль Нікіцюк з Дубічаў, Уладзімір Корч і Міхаіл Рыбак з Тафілаўцаў ды Сцяпан Краўчук з Грабаўца ўжо поўнасцю выканалі гадавы план пакупкі штучных угнаенняў.

### У ШУДЗЯЛОВЕ

Аграном Д. Панель інфармуе нас, што не хапала ў іх штучных угнаенняў. Ад ліпеня не было амонавай салітры, ад 31 жніўня няма суперфасфату. Сяляне ўсё выкупілі. Насення таксама не хапае. Цэлы Сакольскі павет атрымаў на дапамогу сялянам нейкіх 50 тон збожжа. Для Шудзялаўскай грамады яго не хапіла. «Дык маем клопаты з севам», — сцвярджае пані аграном.

* ✻ *

Другі год ужо падрад маем неспрыяльныя ўмовы да сельскагаспадарчай прадукцыі. Дык трэба асабліва задбаць пра жывёлагадоўлю, бо пашы, асабліва зялёнай, у гэтым годзе было ўдосталь. Такі вывад вынікае таксама з прамовы тав. Ул. Гамулкі на цэнтральных дажынках у Варшаве.

*М. Нурэцкі*



*Тут гуляюць дзеці.*

# СІДРА
## АПЯРЭДЗІЛА САКОЛКУ

— А што яшчэ цікавага ў павеце? — дапытваўся я кіраўнікоў Сакольскага павета, прысутных на дажынках у Крынках.

— Абавязкова паедзьце ў Сідру і напішыце, — хутка прагаварыў Г. Кравец, сакратар павятовага камітэта партыі. — Аб іх варта напісаць. Нядаўна там аддалі ў карыстанне прыгожы купальны басейн і іншыя прылады для адпачынку. Расказаць цяжка — лепш гэта ўбачыць.

Проста з дажынак паехаў я ў Сідру. Праязджаючы праз Саколку, я бачыў разрыты луг ля самага горада. — Саколка пачала будаваць штучнае возера, — сказаў мне напатканы сакалчанін.

Простая і нядрэнная дарога хутка даводзіць у Сідру. Два павароты налева — і перад вачыма сучасны рэкрэацыйны цэнтр.

Тут купальны басейн, бадай, з найчысцейшай вадою ў Еўропе, бо выплывае яна з уласнай сідраўскай крыніцы, кругом пастаўлены лаўкі, слупы з электрычным асвятленнем, а на ім гучнагаварыцелі, з якіх чуваць сучасная і народная музыка. Побач агароджаны каляровым плотам пляц гульняў для дзяцей. На ўзгорку між соснамі пабудаваны мураваны будынак, у якім раздзявальня для жанчын і мужчын з душам і буфет, у якім можна купіць халодныя напіткі ды закускі, а нават... каўбасу. За басейнам з пагоркамі, цудоўны краявід Сідры. Гэтае месца ачароўвае. Пачаў я шкадаваць, што так позна прыехаў сюды. Тут мог бы цудоўна правесці адпачынак.

Але пара вярнуцца да самога факту пабудовы.

Ініцыятарам гэтай інвестыцыі быў мясцовы лекар Мечыслаў Кузьма. Два-тры гады таму назад быў створаны ў Сідры грамадскі камітэт, які пачаў дзейнічаць. Грамадзяне, працуючыя ва ўстановах самаападаткаваліся па 100 зл., а гаспадары абавязаліся даць па адной калодзе дрэва (тут гаспадары маюць свой лес). Шмат працы ўлажылі маладыя з гуртка ЗМВ. Школьная моладзь з Макаўлян і Бярвіхі ўвесь час дапамагала пры загаспадаранні комплексу. Шмат працы ўлажыў таксама ПГР Макаўляны і МБМ у Сідры. Мясцовыя рамеснікі абавязаліся грамадскім чынам выканаць агароджу, кошт якой 250 тыс. зл., парабіць лаўкі і іншыя прылады. Мясцовы слёсар Віктар Дважанскі ў гэтым годзе выканаў тут працу на 2.500 зл., а ў мінулым — на 5 тыс. зл.

— Усё гэта выканаў я дзякуючы нашаму лекару, — гаворыць Дважанскі, — які вельмі часта прыходзіў да мяне і заахвочваў да гэтай працы. Спачатку я не верыў, што гэта выйдзе, а зараз калі гляджу на ўсё гэта, вельмі цешуся. Усё гэта выйшла таму, што не заламаўся адзін — наш лекар, хаця мы, іншыя жыхары, часта трацілі веру ў поспех гэтай працы.

Нягледзячы на тое, што басейн і пляц гульняў у жніўні афіцыяльна аддадзены ў карыстанне, праца над загаспадараваннем рэкрэацыйнага комплекса працягваецца. Сідра аказалася адной з найчысцейшых ГРН і ГРН, у якой сяляне ўлажылі найбольш працы ў грамадскія чыны (каля 2 мільёнаў зл. каштаваў толькі басейн). У ваяводскім конкурсе Сідра заняла II месца, атрымаючы 100 тыс. зл. узнагароды. Узнагарода будзе выкарыстана на заканчэнне прац пры спартыўна-адпачынковым комплексе.

Засталося маленькае «але». З вёскі да рэкрэацыйнага цэнтра 300 м. Аднак паколькі тут няма дарогі, можна сюдою прайсці толькі ў гумовых ботах з высокімі халявамі. Акружною дарогаю сюды каля 3-ох кіламетраў. Варта, каб гэтую справу ўладкавала ГРН у Сідры.

Аднак сваёю дарогаю Сідра апярэдзіла Саколку. У Сідру ўжо прыязджаюць на адпачынак з павятовых гарадоў Саколкі і Дубровы.

*А. Карпюк*
*Фота аўтара*



*Купальны басейн у Сідры.*

# ГАСПАДАРОМ БУДЗЕ САКОЛКА

Сёлетняе ўрачыстае адкрыццё культурна-асветнага года 1970/71 адбудзецца ў Саколцы 3 кастрычніка.

Чаму ў Саколцы? На такое пытанне атрымліваем адказ ад аддзела культуры Прэзідыума ВРН у Беластоку: «Сакольскі павет мае вялікія дасягненні ў культурнай працы, а дагэтуль яго вельмі мала экспанавалі. Як быццам бы недаацэньвалі яго».

Галоўны даклад мае тэму: «Галоўныя напрамкі ў культурна-асветнай працы ў новым сезоне». Прадставіць яго кіраўнік аддзела асветы Прэзідыума ВРН ў Беластоку Збігнеў Дамброўскі.

Другі даклад прысвячаецца моладзі, яе ролі і працы грамадска-палітычнай і культурна-асветнай у ваяводстве. Лозунгам, так сказаць, новага сезона з'яўляецца моладзь і праца з ёю.

Спадарожнічаць урачыстасці будуць такія здарэнні, як уручэнне ваяводскіх узнагарод дзеячам і ўстановам; будзе адкрыта цікавая выстаўка «Народнае мастацтва Сакольшчыны». Не трэба пераконваць нікога ў багацці народнага мастацтва Сакольшчыны. Даволі ўспомніць аб слаўных у свеце сакольскіх двуаснавовых дыванах, тканых па тутэйшых вёсках і асабліва ў Янове; будуць экскурсіі па павеце — па клубах і святліцах, знаёмства з сакольскімі формамі культурна-асветнай працы.

З вячэрнім змрокам у стыльнай сакольскай кавярні адбудзецца сяброўская сустрэча ўсіх ўдзельнікаў урачыстасці. Песня, верш, мастацкае слова сплацецца на ёй з практычнымі спрэчкамі аб культурна-асветнай працы на штодзень.

(вл)

Пачатак на стар. 1




хор, танцавальную групу. Разам з імі ехала і наша гарадоцкае трыё: Ніна Цыванюк, Саша Яроцкая і я. Акампаніраваў нам Віктар Яроцкі. Помню, як паволі выходзілі мы па бліскучых сходах уніз, дзе стаялі мікрафоны. Спявалі мы «Бабу Ксюту» і нашы гарадоцкія прыпеўкі. Якія мы атрымалі тады бравы! Слухачы крычалі, каб паўтарыць. Мы спявалі зноў, а яны ў такт нам кляскалі. Я той хвіліны не забуду ніколі!

Летам гэтага года Мінск па радыё перадаваў запісаныя ў філармоніі на плёнку песні. На хвалях эфіру гучэлі і нашы галасы.

Увосень недзе прыбегла неяк да мяне Ніна Цыванючка. Трэба арганізаваць калектыў, паставіць п'есу. Я не кваплілася да гэтага. Помніўся мне яшчэ прыкры нядаўні факт з п'есай, калі то адзін з нашых артыстаў упіўся да непрытомнасці перад самым выступленнем. Але Ніна намаўляла, казала, што ўсе просяць прабачэння і абяцаюць дысцыпліну. І я здалася. Ураілі мы паставіць Кандрата Крапівы «Партызаны». Але ведала я, што п'еса для нас задоўгая і замнога ў ёй дзеючых асоб. Пастанавіла на ўласную адказнасць перапрацаваць яе, скараціць.

У агульнаваяводскім аглядзе занялі мы першае месца з гэтай п'есай. Пасля канцэрта журы запрасіла мяне на размову. Забілася сэрца. А мо злаюць за маю самавольную апрацоўку? Але не. Члены журы дзівавaліся маім адаптацыйным здольнасцям і іншым кіраўнікам гурткоў раілі наследаваць. Спадабалася ім наша ігра, яны дасканала нас разумелі, хоць п'есу мы ставілі па-беларуску.

ГОД 1959.

Хвароба мне дакучала. Я сядзела ўсё цішэй. Былі аднак людзі, што помнілі пра мяне. Галоўнае праўленне БГКТ рыхтавала неяк свой калектыў песні і танца да выступлення ў Гродне. Запрасілі і нашае гарадоцкае трыо. Мы рыхтаваліся ў Супраслі. Адпачывала я тут, набірала сіл. У лістападзе праз Кузніцу паехалі мы ў Гродна. Тут нас прывіталі, як найдаражэйшых гасцей. Адбываўся тады ў Гродне іхні агляд калектываў песні і танца. Мы таксама глядзелі. Вельмі спадабаўся ўрачысты канцэрт лаўрэатаў. Беласточчына дала два канцэрты. Нам вельмі добра пайшло ў другім канцэрце, калі мы навязалі сувязь з публікай. Нас проста тады закідалі кветкамі.

ГОД 1968—69.

Дзесяць год мінула. Цяжкіх для мяне год. Я часта была блізка псіхічнаму заламанню. У 1966 годзе прайшла сур'ёзную аперацыю горла. Але пасля яе выздаравела, памаладзела. І... пачала разглядацца за працай. Прафесіянальная праца была для мяне ў Гарадку недаступнай. Я ўжо раней пайшла на пенсію. Але грамадскай працы аказалася пад дастаткам, і за яе я ўзялася.

Грамадскім чынам пабудаваны быў ў Гарадку прыгожы Дом культуры імя К. Каліноўскага. Змясцілася тут бібліятэка, чытальня, кавярня, кіно, тэлевізар. Не трэба ўжо шукаць, як даўней, кутка для рэпетыцый. Ёсць нават свае інструменты і свой інструктар па музыцы.

За мінулы час перапынку ў гарадоцкай культурнай працы былі спробы яе адрадзіць, ды неяк не выходзіла. І вось у кастрычніку 1968 года кіраўніку Дома культуры Міколе Матэйчыку прыйшло на думку запрасіць усіх членаў былога мастацкага калектыва, каб адрадзіць у Гарадку хор. Не забылі і пра мяне. Я згадзілася. І так пачалося ў Гарадку ізноў. Вакол мяне сабралося звыш 30-ці асоб маладых і старэйшых. Былі тут бабкі, іх дочкі і іх унучкі. Адны жанчыны. Усе аднак хацелі, каб наш новы хор здабыў такую славу, як у 1956 годзе.

Праца наладзілася. Выступалі мы на кастрычніцкім свяце, прымалі ўдзел у конкурсе на рэвалюцыйную песню, былі з песняй на сустрэчы з дзеячамі КПЗБ, ОРМО. Конкурсы за конкурсамі аж сыпаліся. Гарадок быў усюды. Усюды быў добры. Але мне неяк чагосьці не хапала, не да канца ўсё падабалася. Я ўсё думала над новай праграмай, усё хацела стварыць нешта непаўторнае.

Прызнацца трэба, што над праграмай для агляду мастацкіх калектываў нацыянальных меншасцей Беласточчыны з выпадку 25-цігоддзя ПНР я думала і працавала вельмі многа. Запланавала ўрэшце такую тэатральна-вакальную карціну на аснове «Адвечнай песні» Янкі Купалы. На пачатку карціна прадстаўляе эпоху, калі для нованароджанага дзіцяці доля яго была бязвыхаднай і суджана яму такая была ўжо ў калысцы. А калі дзіця падрастала, ставала пастушком у далёкай вёсцы. Далей я мінаюся з Купалам. Перарабляю паэму па-свайму думцы — паказваю працэс кшталтавання сацыялістычнай вёскі. Пастаноўка выглядае так: на сцэне вясковая дэкарацыя, пры хаце хор. Дзіця — ужо дарослы хлапец — сядзіць на першым плане. Па чарзе падыходзяць да яго ўсе поры года. Зносяць яму свае багатыя дары. На фоне хор спявае песні пра вясну, лета, восень. Тэкст песні пра восень я ўлажыла сама, расказала ў ёй пра поспех Гарадка, пра нашу гарадоцкую восень з чаркай і скваркай.

У канцы ўваходзіць зіма, хор спявае пра зімовую завею. Убягае тройка коней са званочкамі, забірае за сабой поры года і ўрэшце ўвесь хор.



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




Над Гайнаўкай вісіць хмара чорнашэрага, едкага дыму. Выпаўзае ён недзе з нетраў хімічнай фабрыкі і сцелецца нізка над дрэвамі, над дамамі, над лесам, пападае ў горла, ў нос, у вочы. Нудзіць ад яго і баліць галава.

А мы расселіся ў мяккіх крэслах. Што ж, няма кабінетаў без дываноў і мяккіх крэслаў. Дык і кабінет таварыша Віктара Барыса — намесніка дырэктара па эканамічных справах Гайнаўскай «хімічнай», абсталяваны ў скромным, нейкім павятовым, кабінетным стылі.

Сядзім у гэтых мяккіх крэслах і заводзім гутарку пра эканамічную рэформу на прамысловых прадпрыемствах нашай краіны. Аб чым жа іншым можна зараз гутарыць у кабінеце эканамічнага дырэктара прамысловага прадпрыемства?

Таварыш Барыс адгарадзіўся ад мяне тоўстымі тамамі скорасшывальнікаў і бамбардуе мае вушы амуніцыяй лікаў. А ўсё зводзіцца да таго, каб гайнаўская «хімічка» спраўней, больш і хутчэй паглынала драўніну і пераўтварала яе ў шкіпінар, спецыяльны, вельмі каштоўны вугаль і ў іншыя цуды ды тайны сучаснай хіміі. Каб гадавы паёк гэтай драўніны скласці ў адну кучу на 80 квадр. метрах, дык вырасла б яна на вышыню 1-го кіламетра. Так ёсць цяпер. Праз 5 год будзе ў два разы больш.

Я слухаю гэтага і, быццам прагнілым «спортам», зацягваюся едкім дымам. Ад яго прысутнасці не ахоўваюць нават сцены дырэктарскага кабінета. І думаю, пра звыш 650 рабочых, якія тут зараз працуюць і пра амаль тысячны рабочы калектыў гайнаўскай «хімічкі», які тут з'явіцца, калі пачне прадукцыю новы цэх, які зараз будуецца. А мо яны прывыклі, мо не адчуваюць гэтага дыму, то ж тут працуюць і тут жывуць?

Дырэктар Барыс гаворыць:

— Для нас самай важнай справай з'яўляецца тэхнічны прагрэс. Машыны, якія працуюць на нашай фабрыцы, даўно ўжо адслужылі свой век, яны яе равесніцы — ім ужо па 50 год. Дык трэба іх падмяніць. Інакш не можам думаць пра рэнтабельную прадукцыю. Вось пад канец наступнага года плануем 255 тысяч чыстага прадукту, а праз 5 год хочам гэты прыбытак памножыць амаль у 8 разоў. Без карэннай тэхнічнай рэвалюцыі на прадпрыемстве нашы намеры застануцца толькі цьмянымі пажаданнямі. Наша прадукцыя патрэбна ўсёй краіне, яе хочуць купляць за мяжой. Падобных хімічных прадпрыемстваў, як нашае, нямнога, а гайнаўская «хімічная» сярод іх самая буйнейшая. Дык і яе значэнне ў эканоміцы краіны ўзрастае непамерна. Таму аж 30 пунктаў са ста адводзім мы на тэхнічны прагрэс. Да гэтага дадаем яшчэ канчатковы ўзровень уласных коштаў прадукцыі. На яго прызначаем 25 пунктаў.

— А гэты едкі газ, — дырэктар паказаў на акно, — што вісіць над намі і распаўзаецца па ўсёй Гайнаўцы — гэта, на жаль, непазбягаемыя адыходы нашай прадукцыі пры датыхчасовай тэхналогіі. Аднак мы маем ужо спосаб на гэты дым. Наш план аднаўлення прадпрыемства прадбачвае замкнуты кругаварот газаў, якія вытвараюцца ў працэсе прадукцыі. Наша хімічная фабрыка, як усё іншае, што будавалі капіталісты 50 год таму назад у Гайнаўцы, узнікла для нажывы. Важны быў прыбытак, а здароўе і ўмовы працы — гэта адыходзіла на далёкі план. Мы зараз прыбытку не адкідаем, аднак і пра людзей не забываемся. Таму запланавалі новую тэхналогію.

— Адкуль аднак над Гайнаўкай раптам паявілася аж столькі дыму? Раней так многа яго тут не было.

— Гэта ў асноўным віна пастаўшчыкоў дрэва. Дастаўляюць яны нам сыравіну, якая мае аж 45 працэнтаў вільгаці, а павінна яна мець толькі 25 працэнтаў. Таму і дыму ў два разы больш. Нашы пастаўшчыкі ў сваю чаргу абвінавачваюць шматснежную, доўгатрывалую зіму, якая не дазволіла ім нарыхтаваць сухой драўніны, і вымушаны яны былі рэзаць лес на весну, калі ён ужо «пусціў сок».

— Якія карысці для вашых рабочых прынясе ажыццяўленне новай эканамічнай рэформы?

— Карысці несумненныя. Інакш не было б сэнсу рабіць гэтай рэформы. Найлепш відаць гэтыя карысці ў заработнай плаце. Рабочы на нашым прадпрыемстве ў гэтым годзе зможа зарабіць у сярэднім 25.758 злотых, праз 5 год яго зарплата павялічыцца да 28.719 зл. Больш-менш настолькі ж павысіцца зарплата адміністрацыйных працаўнікоў.

*М. Нурэцкі*
*Фота: В. Гжэгорчык*



*У гайнаўскай «хімічнай».*

---

Першы ўступны агляд да ўспомненага фестывалю нацыянальных меншасцей зрабілі мы ў Гарадку. Спецыялісты з Беластока сказалі: чагосьці такога яшчэ ў Гарадку не было!

На ваяводскім аглядзе мы занялі першае месца. Нас віншавалі, хвалілі, паказвалі ўсім і раілі браць прыклад. Цяпер маё жыццё ізноў мела сэнс.

Урачысты канцэрт лаўрэатаў усіх калектываў нацыянальных меншасцей Беластоцкага ваяводства адбыўся ў канцы красавіка 1969 года ў прыгожым тэатры імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку. Пасля заканчэння нашага выступлення знаёмыя і незнаёмыя ўбягалі да нас на сцэну, абымалі, цалавалі, цешыліся. Вялікай прыемнасцю было мне ўбачыць маю ўнучку, якая ўскочыла на сцэну і падала мне букет кветак.

Свой спектакль «Адвечная песня» мы ў маі паўтарылі на VI выбарчым з'ездзе БГКТ у Беластоку. Дэлегатам мы спадабаліся. У чэрвені запісвала нас на плёнку польскае тэлебачанне.

Вялікі юбілей 25-цігоддзя ПНР мне асабліва запаў у памяці: за сваю грамадскую працу Рада Дзяржавы адзначыла мяне Кавалерскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы. Мая адвечная сяброўка Ніна Цыванюк атрымала тады Залаты Крыж Заслугі.

*(Былі гэта фрагменты даўжэйшых запісаў-успамінаў Ніны Мушынскай, вядомага грамадскага дзеяча Гарадка і Беласточчыны, члена Галоўнага праўлення БГКТ).*

---

# У СПРАВЕ СПЕВАЎ

Нявырашанай надалей застаецца справа спеваў у пачатковай школе. Вырашэння патрабуюць пытанні: 1) ці ў школах, дзе навучаецца беларуская мова, на ўроках спеваў можна і трэба вывучаць беларускія песні і беларускіх кампазітараў? і 2) па чым вучыць?

Магчымасць вырашэння гэтых двух спраў існуе. Што датычыць «можна і трэба», дык да гэтага часу ніхто не забараняў навучаць беларускім песням. Але трэба памятаць, што дагэтуль, прынамсі фармальна, існавала больш школ, якія называюцца школамі з беларускай мовай навучання, і ў гэтых школах нібы з абавязку дзеці павінны былі вывучаць між іншым і спевы па-беларуску. Аднак жыццё дыктуе нам іншы тып меншаснай школы, дзе родная мова выступае як прадмет, а ў сувязі з тым фармальна адпадае справа песняў на беларускай мове.

— Не разумею, што можа быць за праблема са спевамі? — сказаў мне адзін з педагогаў. — Ёсць праграма па гэтаму прадмету, зацверджаная міністрам асветы, і там сказана, што мае рабіць настаўнік. Паколькі няма там гаворкі аб беларускай песні, ніхто з нас не ўпаўнамочаны і не мае права ўводзіць сваіх паправак нават у адносінах да беларускай песні.

Майго субяседніка можна назваць фармалістам. Але гэта не вырашае справы. У навучанні справа не толькі ў забароне. Дый пра забарону не можа быць мовы ў нашым сацыялістычным грамадстве. Справа ўвядзення беларускіх песень і кароткіх інфармацый аб беларускіх кампазітарах павінна быць уладкавана нейкім загадам ці інструкцыяй, так, каб ведаў, што мае рабіць настаўнік, каб арыентаваўся кіраўнік школы і інспектар. Такое вырашэнне справы ліквідуе раз на заўсёды непаразуменні, якія, далікатна гаворачы, часта ствараюць непатрэбныя эмоцыі.

Насоўваецца пытанне: ці ёсць сэнс уводзіць якія-небудзь змены ў праграме спеваў. Думаю, што патрэба такая існуе і што ў гэтай галіне зроблена вельмі мала, а мо і нічога. Справа маецца зараз так: нашыя падручнікі беларускай мовы настолькі перагружаны літаратурным матэрыялам, што на песні абсалютна няма месца; па-другое, на ўроках спеваў ніхто або амаль ніхто не знаёміць дзяцей з беларускай песняй, бо не прадбачвае таго праграма навучання, ды і няма з чаго вучыць.

Аб патрэбе ўвядзення да музычнага выхавання беларускіх песень гаворыць такі прыклад:

У адным з летніх гарцэрскіх лагераў прымае ўдзел вучаніца 7-га класа Люба. Люба дружыць з сяброўкамі. Любу любяць у лагеры. Ля кастра Люба чытае беларускія вершы, што вывучыла ў школе. Спадабалася. Просяць Любу, каб заспявала беларускую песню.

— Ня ўмею, — гаворыць яна пачырванеўшы. — У нас спевы на польскай мове, як і ў вас...

А справа падручніка? Можна справу вырашыць, прынамсі для настаўнікаў, заказаўшы іх у Мінскім выдавецтве «Народная асвета».

Як няма ніякага сэнсу навучаць на беларускай мове практычна-тэхнічных заняткаў, заняткаў па фізкультуры ці маляванні, дык неабходна іх увесці як элемент на ўрокі па музычнаму выхаванню.

Каб дзеці II-га ці III-га класа не спявалі на ўроках спеваў «Зоркі Венеры», прапаную кампетэнтным уладам зрабіць малы дадатак да праграмы па музычнаму выхаванню з прапанаванай тэматыкай адносна песні беларускай і... заказаць падручнікі па спевах для пачатковых школ з Мінска.

*А. Карпюк*

---

# БЯДА З МАЛАКОМ

Час ад часу можна пачуць наракані гаспадароў, што малачарні не хочуць закупляць малака. Што замнога ўжо яго. Такое мае месца найчасцей па віне працаўнікоў малачарскай кааперацыі, іх арганізацыйнай нядбайнасці або няздольнасці. Заданнем кааперацыі з'яўляецца выкупленне ўсяго малака, якое хочуць прадаць гаспадары.

Для гэтага наймаюцца нават фурманкі, за грошы кааперацыі, якія аб'язджаюць вызначаныя вёскі і бяруць малако «ад парога», каб адвезці яго ў малочны пункт. Напрыклад, у мінулую зіму малочная кааперацыя наняла каля тысячы такіх фурманак на тэрыторыі цэлага ваяводства.

У выпадках заўважанай затрымкі ў закупках малака гаспадары павінны самі энергічна дамагацца выяснення і вырашэння сітуацыі. Не павінны чакаць, пакуль хтосьці здагадаецца змяніць што-небудзь на лепшае. (ся)

---




# КАБ НІКОЛІ Ў ЖЫЦЦІ НЕ ЗАБЫЦЬ . . .

Даўно адгрымелі баі, пазарасталі партызанскія сцежкі. Адбудаваліся гарады, на папялішчах павырасталі сёлы. І толькі помнікі-мануманты змагарам народным, ды часамі нясцерпны сум дачкі-сына 30—40 год па загінуўшых бацьках ускалыхне душою.

20-годкі ўжо не ведаюць, што такое зайна. І тут узнікае пытанне, ці ведаць яны павінны. Думаю, што так, ды з малых год. Успамінаецца мне размова, праведзеная з жыхарам ФРГ, немцам, на грунце, так сказаць, нейтральным — у сонечнай Югаславіі. Чалавек гэты ў свой час падстаўляў галаву за Гітлера, трапіў у палон, пазнаў рускіх. Вельмі радаваўся новай палітыцы Брандта. «У нас жа дагэтуль, — сказаў ён, — прынамсі палова моладзі свята верыла, што гэта рускія і палякі напалі на немцаў».

Дык ці ж можам мы заплюшчваць вочы на гэтыя факты? Ці не павінны мы гаварыць свету штодзень, штогадзіну аб злачынствах гітлераўскага фашызму?! Ці не павінны мы бясконца паўтараць нашым дзецям і ўнукам, што была вайна, страшэнная, што на месцы многіх квітнеючых сёння нашых гарадоў і вёсак былі руіны, што ў часе вайны загінула пятая частка жыхароў Польшчы і чацвёртая частка жыхароў Беларусі, што народ аднак жыў і змагаўся?!

Такой ідэі, здаецца мне, прысвяціў сваю апошнюю працу Язэп Зазека. Бо нельга не назваць вялікай працай кніжку яго «Лясныя песні», выдадзеную ў 1969 годзе выдавецтвам «Беларусь» у Мінску. Аўтар доўга і старанна шукаў матэрыял у газетах, рукапісна-літаратурных часопісах, альманахах, на старонках якіх друкаваліся партызанскія аўтары, а таксама ў зборніках вершаў паэтаў-партызан, што выходзілі ў тыле ворага.

Аўтару блізкія тэмы паасобных вершаў і песень, бо і сам ён у гады вайны быў у радах амаль 400-тысячнай арміі партызан, і партызаніў якраз на нашай Беласточчыне. Партызанам быў таксама мастак Мікалай Гуціеў, які зрабіў цікавыя малюнкі да паасобных твораў па матывах сваіх партызанскіх замалёвак і сатырычных плакатаў.

Характэрнай з'явай для зборніка з'яўляецца тое, што ўперамешку змешчаны беларускія і рускія вершы і песні. Так, як і было, так, як гаварылася і спявалася.

Зборнік падзелены на тры раздзелы: I — «За савецкі вольны край», тут змешчаны публіцыстычныя вершы, II — «Героем быў кожны», тут змешчаны лірычныя песні, III — «Як мы фрыцаў частавалі куляю свінцоваю», дзе змешчаны сатырычныя вершы, байкі, вострыя прыпеўкі.

Зборнік Язэпа Зазекі «Лясныя песні», — гэта толькі першая спроба сабраць і ў нейкай ступені сістэматызаваць паэтычную творчасць беларускіх партызан. Змешчаныя тут творы надрукаваны ў тым жа выглядзе, у якім з'явіліся ў друку ўпершыню. Яны пераканаўча сведчаць аб тым, што беларускі партызан умеў змагацца з ворагам не толькі са зброяй у руках, але таксама, і не менш паспяхова, пяром, ці, праўду кажучы, партызанскім зашмальцаваным алоўкам. Аўтарамі найчасцей былі маладыя юнакі і дзяўчаты-партызаны або сувязныя. Многія з іх засталіся невядомымі аўтарамі, многія загінулі. Яны складалі гэтыя простыя, ідучыя ад сэрца словы і мелодыі, якія адразу ж падхопліваліся іншымі партызанамі, атрадамі і брыгадамі. Найбольш папулярнымі аднак былі частушкі, якія вельмі хутка адклікаліся на розныя міжнародныя падзеі, на партызанскія будні і подзвігі. Паслухайце самі:

Дождж ідзе, бяжыць вада,
Вілія гуляе.
Сцеражыся фрыц-свіння,
Беларус ступае.

Думаю, што і таго, хто перажыў цяжкія дні вайны, і таго, хто яе жахаў не ведае, усхвалююць няхітрыя радкі партызанскіх паэтаў, якія аднак адкрываюць перад намі слаўныя старонкі мінулых баявых дзеяў.

АДА ЧЭЧУГА



© PDF: Kamunikat.org 2020

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### АЛАДКІ

Звычайныя мучныя аладкі — здавалася б, што ёсць больш простага! Па добрыя парады аднак у галіне аладак раім вам звярнуцца да французскіх гаспадынь (у Францыі — гэта вельмі распаўсюджанае блюда). Яны вам скажуць, што каб цеста атрымалася добрае, неабходна да яго дадаць алею — цеста тады будзе больш крухкае, калі дададзім да яго піва і ўзбітыя бялкі — аладкі будуць пульхныя і лёгкія, а цёплая вада дапамагае ферментавацца цесту. Французскія гаспадыні вельмі па-рознаму падрыхтоўваюць цеста на аладкі, ды і дадаткі бываюць у іх розныя: гародніна, садавіна, мяса, рыба.

*Аладкі са слівамі.* У палове шклянкі цёплага малака распусціць 4 дэкі (40 г) дражджэй. 30 дэкаў (300 г) мукі высыпаць у міску, зрабіць у муцэ ямку, у якую дадаць 2 сталовыя лыжкі алею, столькі ж рому, малако з дражджамі, 3 сталовыя лыжкі цукру. Замясіць цеста, каб атрымалася гладкае, без камякоў, не надта густое (калі трэба, можна даліць яшчэ крыху малака).

Цеста паставіць у цёплае месца, каб падрасло. Слівы памыць (на такую колькасць цеста трэба ўзяць 20 сліў), кожную сліву лёгка надрэзаць, выняць з іх костачкі, а на іх месца палажыць па палове міндаліны. Калі цеста падрасце, макаць у ім слівы і класці ў гарачы тлушч на патэльні. Калі аладкі будуць мець залаты колер, вымаем іх і пасыпаем цукровай пудрай.

*Аладкі з яблыкамі.* 20 дэкаў (200 г) мукі высыпаць у міску, зрабіць у муцэ ямку, у яе ўбіць 2 жаўткі, уліць 5 дэкаў (50 г) разагрэтага масла, дадаць крыху солі, мяшаючы, паволі ўліць няпоўную шклянку піва. У канцы дадаць ўзбітую пену з бялкоў. Так цеста павінна пастаяць паўгадзіны. Яблыкі ababраць, выразаць спецыяльнай лыжачкай сярэдзіну, парэзаць на скрылёчкі, спырснуць гарэлкай і перасыпаць цукрам. Праз гадзіну абсушыць яблыкі і макаць кожны скрылёчак у цесце, смажыць у гарачым тлушчы з абодвух бакоў. Зняўшы з патэльні, пасыпаць цукровай пудрай.

*Аладкі з паштэтовай каўбасой.* 15 дэкаў (150 г) мукі, высыпаць у міску, зрабіць у муцэ ямку, у яе дадаць: 1 сталовую лыжку алею, крыху солі і, памешваючы, уліць 3/4 шклянкі летняй вады, так, каб атрымалася гладкая маса, якая б добра «трымалася» лыжкі. Пакінуць цеста на 2 гадзіны ў халодным месцы. Перад смажэннем дадаць 1 ўзбіты бялок і дробна нарэзаную зялёную пятрушку. Зняць скурку з паштэтовай каўбасы, нарэзаць на кавалкі. Кожны кавалак макаць у цесце і смажыць з гарачым тлушчам. Падаваць аладкі гарачымі.

*Гаспадыня*



## ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

### ПРА ХАЛЕРУ

Першае апісанне халеры было знойдзена ў старых кітайскіх кнігах прыблізна з 430 года да нашай эры. Назву выводзяць або з грэцкага слова «cholas» (кішкі) або ад яўрэйскага «chaul rah», — што абазначае «злая хвароба».

Доўгія часы халера была хваробай азіяцкай. Першая невялікая эпідэмія яе дасягнула Еўропы ў 1817 годзе. Потым былі эпідэміі ў 1831 годзе, калі халера заатакавала Парыж і адразу памерла там 50 тысяч людзей. Наступныя эпідэміі ў 1852, 1863, 1875 — халера дайшла ў Злучаныя Штаты, але хутка знікла і ніколі больш там не паказалася, 1881 годзе, 1899. У 1907 годзе завандравала ў Пецярбург. Апошняя эпідэмія халеры працягвалася 24 гады.

Ад канца I сусветнай вайны Польшча не занатавала выпадку халеры, а ад 1923 года не паказалася яна ў Еўропе. Азіяцкая хвароба пачала адступаць да сваіх азіяцкіх сядзіб. Нават і там малела і амаль знікла. Пачалі нават гаварыць, што халера зусім выгасла.

I раптам у 1961 годзе заразка ў выглядзе коскі прабудзілася на востраве Цэлебес, хутка ахапіла ўсю Інданезію і Паўднёва-Усходнюю Азію. Заразка была іншая чым тая даўнейшая. Медыцына падняла трывогу. А халера дайшла да Афганістана, Ірана, ССС (над Аральскім морам). У апошні час стала зноў чуваць пра халеру, хоць вучоныя кажуць, што Еўропе не пагражае цяпер яе эпідэмія.

Сто год таму назад англійскі лекар Джон Сноу здзівіў усіх, калі сцвердзіў, што халерай раптоўна захварэлі ўсе, хто напіўся вады з адной лонданскай публічнай студні. Лекары пачалі шукаць прычын хваробы і дарог яе распаўсюджвання. Калі ў 1883 годзе эпідэмія халеры вылюдніла горад Александрыю, на Еўропу ўпаў вялікі страх. Найслаўнейшыя вучоныя рушылі на першы фронт барацьбы з ёю. Вядомы нямецкі лекар Кох выехаў у Калькуту і там у страшэнных умовах, у хатах, поўных хворых, праводзіў секцыі памерых, заражаў мышэй. І нарэшце знайшоў. Прывёз бактэрыю — кароткую палачку накшталт коскі. Назвалі яе «Vibrio cholerae». Кох сказаў: халера не ўзнікае сама сабой. Ніхто не захварэе ёю, пакуль не праглыне коску бактэрыі. Бактэрыя гэтая развіваецца ў чалавечых унутранасцях і ў бруднай вадзе.

Праз год ад адкрыцця бактэрыі Кохам была застасавана супраць яе прывіўка, найперш у Іспаніі. Хоць цяпер яшчэ 3% хворых халерай памірае, то аднак паміраюць яны там, дзе нізкі санітарны ўзровень і дрэнная лекарская апека.

Найлягчэй халерай захварэць ад заражанай вады і ежы.

Як пазбегнуць халеры? Мыць рукі як найчасцей, піць ваду і малако толькі кіпячонае, яблыкі і іншую гародніну мыць кіпячонай вадой, нішчыць мух.

У нас у Польшчы робяць прывіўку кожнаму, хто едзе на Блізкі і Далёкі Усход.

У сувязі з выпадкамі халеры на Блізкім Усходзе польская служба здароўя паднята на ногі. Дагэтуль у краіне не сцверджана нават выпадку падазрэння на халеру, але варта трымаецца вострая, і калі б была патрэба, будуць прыняты масавыя сродкі забеспячэння.

(апр. в.л.)

## ТУРЫСТЫ СХОДЗЯЦЬ ПАД ВАДУ



Адна з найбольшых японскіх прамысловых фірмаў Хітахі Цосен пабудуе на ўзбярэжжы Вялікага акіяна падводную вежу. Сталёвая канструкцыя, вышынёй амаль у 20 м, будзе ўстаноўлена ў адлегласці 90 м ад узбярэжжа і апушчана на глыбіню 6 м. Аднарэльсавы вагон спалучыць вежу з узбярэжжам. Люкі ў вежы дазволяць турыстам назіраць за падводным жыццём. Пражэктары павялічаць падводную бачнасць на 10 м. Японцы лічаць, што іх узбярэжжа асабліва цікавае для назірання за падводнай фаўнай і флорай. Выспы іх абцякаюць вялікія марскія плыні — ад поўдня цёплая плынь, ад поўначы халодная. Адпаведна змяняюцца і падводныя карціны — ад характэрных для арктычных умоў да трапікальных. Японцы плануюць пабудаваць у найбліжэйшым часе 8 падводных паркаў з назіральнымі вежамі.

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### МІНІ-ТРАНСПАРТ



На вуліцах англійскіх гарадоў з'явілася шмат мініяцюрных аўтамабіляў. Канструктары прадказваюць ім вялікую будучыню ва ўмовах перагружанасці гарадскіх вуліц.

### ТКАНІНА-ХАМЕЛЕОН

Нарэшце, атрымана тканіна, пра якую, напэўна, марыла не адна модніца. Яна належыць да выдатнай сям'і полімераў і валодае незвычайнымі ўласцівасцямі: тканіна мяняе сваю афарбоўку ў залежнасці ад розных знешніх умоў: валокны адчувальныя да вільготнасці паветра, цяпла сонечных промняў.

Снежна-белы купальнік робіцца блакітным, а па меры высыхання — аранжавым, ружовым.

### КНІГІ СТАРАЖЫТНАЙ РУСІ

У старажытнасці людзі гаварылі: «Книга писана по телятине». Так, з далікатнай скуры цяляці выраблялі матэрыял для кнігі. Чарніла выраблялі са... старых цвікоў. Клалі іх у квас або кіслую капусту, дадавалі некаторыя рэчывы, і атрымліваўся фарбуючы раствор.

На стале перапісчыка або, як яго называлі, «писателя», знаходзілася ўсё неабходнае: чарніліца, пясочніца, з дробным пяском, які замяняў прамакатку, нож для заточвання гусіных пер'яў, і другі нож — для саскрабання чарнільных плям, няправільна напісаных літар, слоў, а то і цэлых радкоў. Перапіска кнігі працягвалася два, тры і больш месяцаў.

### КАРЦІНА З МАРАК

Маркі карыстаюцца папулярнасцю не толькі ў філатэлістаў. У 1896 годзе нейкі мастак стварыў мазаічную карціну — копію з карціны Леанарда да Вінчы «Тайная вячэра» з паштовых марак, выкарыстаўшы пры гэтым 12 тысяч знакаў.

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

...большасць футбольных каманд свету адмаўляецца фатаграфавацца перад пачаткам матча. Футбалісты лічаць, што гэта перашкаджае перамагаць.

КРЫСЦІЯН БЕРНАДАК




Цыган сустрэў дапытлівы позірк доктара Байгльбёка. Урач быў «мечаны»: глыбокія шрамы пакрывалі яго твар. Пасля стараннага абследавання з 63 чалавек, дастаўленых Байгльбёку, адабралі 44.

— Вас прывезлі сюды для ўдзелу ў медыцынскім эксперыменце, які не мае для вас ніякай небяспекі. — Апошнія словы Байгльбёк паўтарыў двойчы. — Вас будуць добра карміць, дадуць курыць, а вы пад нашым назіраннем пап'еце крыху марской вады.

Карл Халайнрайнер сам здзівіўся сваёй смеласці:

— Мы не хочам падвяргацца доследам.

Другі зняволены, Рубі Таубман, падтрымаў Карла:

— Я таксама адмаўляюся.

«Мечаны» падышоў да яго ўшчыльную і сказаў:

— Супакойся! У адваротным выпадку ты ведаеш, што цябе чакае! — І павярнуўшыся да астатніх, дадаў: — Доследы не маюць небяспекі, ніхто з вас не памрэ. Акрамя таго, пасля вы будзеце вызвалены...

Адведзены для доследаў барак 1/4 знаходзіўся наводшыбе. Урачы размясціліся ў вялікім пакоі з левага боку. Ля дзвярэй у калідор і ля ўваходу ў прыбіральню дзяжурылі эсэсаўцы. Усе цыганы былі маладыя, многім менш чым дваццаць; самаму юнаму — 16 гадоў.

— Ужо ў першыя дні, — расказвае Лаўбінгер, — мы даведаліся ад аднаго са зняволеных, што тыя, хто п'е марскую ваду, абавязкова паміруць. Мы павінны адмовіцца, — сказаў ён.

Як толькі Байгльбёк даведаўся аб гэтым, ён прыйшоў у шаленства.

Чалавек выпіў сваю порцыю марской вады, але яго адразу ж вырвала. Байгльбёк прыйшоў з гумавай трубкай і ўліў зняволенаму ў страўнік яшчэ большую порцыю марской вады.

Другі зняволены спрабаваў лізаць водаправодныя трубы ў прыбіральні: ён выявіў невялікі працёк у злучэнні труб за ўнітазам.

Тады Байгльбёк прывязаў яго да ложка, заляпіўшы яму рот лейкапластырам. Многія качаліся на ложках ад вострага болю ў жываце, крычалі і плакалі, як дзеці. З рота ішла пена...

У цыгана Халайнрайнера быў нумар 23. Ён расказвае:

— Я піў самую дрэнную ваду, жоўтую (вада Беркі). Памятаю, на адным з ложкаў ля ўваходу чалавек выў ад болю і жаху. На губах у яго выступіла пена. У яго быў прарыў печані. Мы вар'яцелі ад голаду і смагі, але Байгльбёк быў бязлітасны. Ён не звяртаў на нас ніякай увагі. Цыган, які з'еў маленькі кавалачак хлеба і запіў яго прэснай вадой, выклікаў шаленства Байгльбёка. Яго таксама прывязалі да ложка і заткнулі яму рот ліпкай тканінай. Другога цыгана, які адмовіўся піць марскую ваду, прымусілі праглынуць зонд. Ён стаў на калені перад урачом і маліў яго не даваць яму вады. Але Байгльбёк спакойна ўліў у яго ўсю порцыю.

Доктар Рош (французкі ўрач-афтальмолаг, старшыня Брацтва былых вязняў Дахау. Аўтар кнігі гутарыў з ім 4 студзеня 1967 года) і члены лагернага падпольнага камітэта Супраціўлення хацелі даведацца, што адбываецца ў таямнічым бараку 1/4. Зняволеныя вар'яцелі. Яны крычалі, курчыліся, іх хрыплае дыханне змешвалася ў адно страшэннае перадсмяротнае храпенне. Жудасная карціна: скура, якая стала бурай, як пергамент, злазіла кавалкамі, ногі распухлі...

### «БАРАК МАРСКІХ СВІНАК»

Эдуард Ламбер стаяў навыцяжку ля сцяны лазарэта Бухенвальда (яго паказанні былі запісаны аўтарам 12 снежня 1966 года).

— Падыдзі!

Кульгаючы, Ламбер падышоў да ўрача. Ён бачыў яго ўпершыню.

— Ну, як нага?

Нага Ламбера трапіла пад кола ваганеткі.

— Лепш. Мяне ўжо выпісваюць.

— Што ж, ты маеш права на ўзнагароду. Атрымаеш добры абед перад тым, як прыступіць да работы.

На стале — графін з вадой, бохан хлеба і два тлустыя кураняці: іх толькі што знялі з агню, і ад аднаго іх выгляду кружылася галава.

— Усё гэта для цябе. Не накідвайся. У тваім распараджэнні адна гадзіна. Ты павінен з'есці ўсё, да апошняй крошкі. Я пайду.

Ламбер застаўся адзін. Схапіў хлеб і раптам зразумеў: «Калі я адразу з'ем усё гэта, то памру». Трэба было есці не спяшаючыся і памалу.

— Урач сказаў, што ў маім распараджэнні адна гадзіна. З'еў дзве ножкі, трэцюю ўжо не мог есці: мой страўнік быццам звяло сутаргай. Я пачаў есці яшчэ больш марудна. Мне не далі ні нажа, ні відэльца. Як быць з хлебам? З куранятамі я яшчэ як-не-



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ТРЫБУНА чытачоў

## ПАСЛУГІ

Пачынаючы ад 1966 года, сістэматычна павялічваецца колькасць прадпрыемстваў і пунктаў паслуговых у Гайнаўскім павеце. У пачатку бягучай пяцігодкі дзейнічала толькі 275 прадпрыемстваў, у ліку 171 на вёсках. А ўжо ў першым квартале 1970 года было іх 476, у тым ліку на вёсках 274. Адпаведна да колькаснага ўзросту пунктаў бытавога абслугоўвання насельніцтва ўзрасла колькасць працаўнікоў з 454 асоб у 1966 годзе да 633 асоб у першым квартале 1970 года. Узрост бачым таксама і ў грашовых абаротах. У 1966 годзе грашовыя абароты гэткіх пунктаў на Гайнаўшчыне склалі суму 19.935 тыс. зл., а ўжо ў 1969 годзе перавысілі 40.670 тыс. зл.

(хх)

## УСПОМНІЦЕ, НАПІШЫЦЕ!

Змяшчаем здымак, праўда, тэхнічна слабенька зроблены, але цяпер ён прадстаўляе гістарычную вартасць. Зробленае фота падчас нямецкай акупацыі ў раёне Кляшчэляў. На фота партызаны. Першы з левага боку — камандзір партызанскага атрада, таварыш Макараў. Прозвішчы наступных трох мужчын таксама ўстаноўлены. Невядома толькі імя і прозвішча жанчыны. А былы партызанскі камандзір тав. Макараў не толькі хацеў бы прыпомніць прозвішча гэтай жанчыны, але хацеў бы таксама з ёю спаткацца. У бягучым годзе таварыш Макараў наведаў Сямяціцкі і Гайнаўскі паветы і быў госцем павятовых улад. Звяртаемся з просьбаю да ўсіх тых, якія могуць сказаць, як завецца гэта жанчына і дзе яна жыве. А мо яна сама адгукнецца. Вельмі просім. Вестку гэту прышліце ў рэдакцыю «Ніва» або ў павятовы камітэт партыі ў Гайнаўцы, вул. Вызвалення 8.

(мх)



## БРУКУЕЦЦА ВУЛІЦА

У Падазяранах, што за Міхаловам, жыве больш 100 сем'яў. Вёска прыгожая. Людзі жывуць заможна, хаця зямля там слабаватая.

У бягучым годзе ў Падазяранах будуецца брукаваная маставая. Скончацца ўрэшце цяжкасці на вуліцы ў непагадзь восенню і ў пачатку вясны.

(сс)




*Дарагое Сэрцайка!*

Пішуць да цябе найчасцей або закаханыя або разачараваныя. А я — ні адно, ні другое. Аднак зайздрошчу тым, якія могуць быць каханымі. Жыву я на вёсцы, мне 20 год. Чытаю многа кніжак, часопісаў, газет. З выгляду нічым не захапляю дзяўчат, а што найгоршае — адстрашваю. Я пару год таму назад меў выпадак і цяпер накульгваю на адну нагу. Дэфект не вельмі заўважальны, аднак увесь час не дае мне спакою. На забавах я наогул не танцую (хоць магу), бо якая ж дзяўчына захоча са мною танцаваць, да дзяўчат з чужой вёскі нават не асмельваюся падыходзіць. Праўда, сустракаў я такіх дзяўчат, якія былі вельмі ветлівыя да мяне і запрашалі адведаць, пайсці на забаву, але яны толькі насмейваюцца з мяне, бо ведаюць, што я не пайду на забаву і не буду танцаваць, не буду таксама з ніводнай сустракацца. Таму я нудны і адзінокі і адчуваю сябе вельмі нешчаслівым. Якая ж тут можа быць рада на маё няшчасце?

*Валодзя з Гайнаўшчыны*

*Валодзя!* Кажуць: «Кожны — каваль свайго шчасця». І ёсць тут немалая доза праўды. Ты, Валодзя, перш за ўсё павінен пазбавіцца комплексаў горшасці, бо тое, што накульгваеш на адну нагу, не перашкаджае ў сяброўскіх кантактах. Больш якраз перашкаджае тое, што ты стаў неадважны і нудны. А як сам жа пішаш, сустракаў ты і такіх дзяўчат, якія хацелі з табой сябраваць, а ты замест ацаніць гэта (г.зн. адвагу дзяўчат, якія самі першыя прапануюць сяброўства) адплачваў ім няўдзячнасцю, асуджаючы іх, што яны як быццам бы насмейваюцца з цябе. Ты ж пішаш, што многа чытаеш, многа ведаеш і, напэўна, зацікавіў бы размовай не адну дзяўчыну. Не ўсе ж дзяўчаты «ганяюцца» толькі за прыгажосцю. І перастань усё думаць аб назе, а пастарайся весці сябе натуральна. Пакажы сябе такім, якім ты ёсць: начытаным, разумным хлопцам, а тады не адна дзяўчына ўздыхне за табой.

*Жадаю поспехаў Сэрцайка*

## ДАЖЫНКІ Ў ЗАБЛУДОВЕ

6 верасня гэтага года адбыліся дажынкі ў Заблудове (Беластоцкі пав.). Пасля афіцыяльнай часткі (калі першы сакратар павятовага камітэта ПАРП Аляксандр Камінскі прачытаў даклад) выступілі самадзейнікі з Пагажалак. На дажынкі прыйшлі жыхары трох грамад: Заблудова, Рафалоўкі і Фальваркаў Тыльвіцкіх.

Падчас дажынак адбыўся конкурс воркі. Найлепшым з трактарыстаў: Мікалаю Дзям'янчуку (I месца) з ГРН Багданкі, Мікалаю Казберуку з МБМ у Міхалове (II месца) і Антону Асташэўскаму з ПОМ Беласточак (III месца), — уручылі дыпломы, а таксама прызналі грашовыя ўзнагароды. Дыпломы былі ўручаны таксама перадавым гаспадарам. Апрача гэтага, адбываліся тут спартыўныя розыгрышы, спаборніцтвы па стральбе, практыкаванні пажарных каманд.

Вялікім зацікаўленнем прысутных карысталася выстаўка сельскагаспадарчых пладоў, насценгазета са здымкамі перадавых гаспадароў і фантавая латарэя.

Моладзь прымала ўдзел таксама ў алімпіядзе сельскагаспадарчых ведаў. Найлепшымі ведамі выказаліся Станіслаў Тарасюк з вёскі Беле і Бажэна Дмоўская з Заблудова.

*Я. Цялушэцкі*

## ЗАМНОГА СЕНА

Цуды творацца на белым свеце. У раёне воднай суполкі Маскоўцы на Бельшчыне было шмат багністых, амаль дзікіх, неўраджайных сенажацяў. Касілі там толькі адзін раз у год. Другі раз не было за што касу закладаць. Добра ўжо было, калі на адным гектары накошвалі 30 цэнтнераў. Цяжка было з сенам. Не было ўдосталь пашы для кароў. Ды к таму мала іх было. Трымалі тады па адной, па дзве штукі, а ўжо тры каровы рэдка ў каго былі.

А гляньце, як цяпер. Цяпер па 7 штук, па 8, а нават па 10 штук у гаспадара. Цяпер вельмі рэдка ў каго тры каровы. Кожны гаспадар штомесяц атрымоўвае па пару тысяч злотых за продаж малака дзяржаве. Меліярацыя і загаспадаранне сенажацяў прычынілася да высокіх ураджаяў сена. Па 50 цэнтнераў з гектара збіраюць цяпер, а нават і больш. Расце трава вялікая, касярку можна паламаць пад яе масаю. Сена цяпер не толькі што дастаткова, але нават замнога. Каб быў на яго збыт, многія гаспадары шмат сена адвезлі б на продаж. У гэтай справе прадстаўнікі мясцовай ГРН у Грыгароўцах не раз заяўлялі павятовым гандлёвым уладам.

Сенажаці патрабуюць сталага догляду, угнойвання іх. І жыхары вёскі Маскоўцы вырашылі калектыўна рассеяць мінеральныя ўгнаенні на 234 га. Адбылося гэта ў канцы жніўня пры дапамозе машын ПОМ-у з Бельска Падляшскага і пад надзорам аграмеліярантаў Андрэя Нікіцюка, Яўгенія Хіневіча і Уладзіміра Дзмітрука. Выпала на 1 га 147 кг НПК у чыстым складзе.

Кошт 1 га мінеральных угнаенняў сенажаці склаў 844 зл. Не абыйшлося тут таксама без непаразуменняў. Некаторыя проста не хацелі угнойваць сенажацяў. Але нягледзячы на гэта, эксперымент калектыўнага ўгнаення здаў экзамен. І таму варта і трэба яго прапагандаваць.

(мх)

## У ГРН ФАЛЬВАРКІ ТЫЛЬВІЦКІЯ

На тэрыторыі ГРН Фальваркі Тыльвіцкія (Беластоцкі павет) электрыфікаваны ўсе вёскі. Меліяравана і загаспадарана 372 га зямельных угоддзяў. МБМ (Міжгуртковая машынатрактарная база) налічвае 14 трактараў з поўнымі камплектамі сельскагаспадарчых машын. У грамадзе ўзрасло пагалоўе рагатай жывёлы з 1855 штук у 1969 годзе да 1887 штук у гэтым годзе, павялічылася колькасць высяваемых мінеральных угнаенняў на 10,2 кг НПК у чыстым складзе на 1 гектар у параўнанні з мінулым годам.

Адным з лепшых гаспадароў у гэтай грамадзе з'яўляецца Тадэуш Мікалайчук з Малынкі. Гаспадарыць ён на 11 гектарах і гадуе 10 кароў, якія даюць у сярэднім па 2800 літраў малака ў год, 10 свіней, 2 свінаматкі і 20 парасят. Штогод здае дзяржаве 1100 кілаграмаў валавіны і 900 кг свініны. Тадэуш Мікалайчук дае на 1 га па 172 кілаграмы НПК у чыстым складзе і атрымоўвае высокія ўраджаі: жыта — 24 цэнтнеры з 1 га, пшаніцы — 28 цэнтнераў, ячменю — 32 цэнтнеры, аўса — 26 цэнтнераў, бульбы — 210 цэнтнераў з 1 га. Добра загаспадараныя лугі даюць высокія ўраджаі сена.

Я. Ц.

## НАВУКОВАЕ ЛЕТА 70

Група з навуковага гуртка русістаў пры універсітэце Мар'і Кюры-Складоўскай у Любліне арганізавала лагер у рамках студэнцкай акцыі «Навуковае лета 70».

Тэмай навукова-даследчых прац лагера было «Даследаванне беларускіх гаворак у раёне Нараўкі». Працай студэнтаў кіраваў дац. др М. Лесюў, а кіраўніком быў М. Саевіч.

Вынікі даследаванняў будуць перададзены навуковаму гуртку русістаў і кафедры русістыкі Люблінскага універсітэта. Вялікую дапамогу студэнтам аказала ГРН у Нараўцы і мясцовы ГОК, якія, між іншым, пазычылі магнетафон да запісу гаворак і фальклору.

(ак)

будзь спраўлюся, але хлеб мяне прыкончыць. У пакоі быў умывальнік. Адтуліна ў ракавіне не была закрыта сеткай, і я пачаў паспешліва крышыць хлеб, запіхваць туды і змываць вадой. Хлеба было больш чым кілаграм. Калі прыйшоў урач, на стале ляжалі аб'едзеныя костачкі. — Ну і апетыт!

Урач засмяяўся.

— Цяпер мы цябе абследуем.

Ламбера аддалі ў распараджэнне двух фельчараў, якія некалькі разоў бралі ў яго кроў, сачылі за тэмпературай, сэрцам, ціскам.

Назаўтра яго накіравалі на работу. Няма сумнення, што невядомы ўрач займаўся даследаваннямі ў галіне харчавання.

— Гутарка ішла аб харчовых канцэнтратах, — гаварыў у Нюрнбергу адзін з абвінавачваемых, — якія трэба было скінуць нашым акружаным войскам у розных раёнах Расіі. Патрэбна было ўстанавіць, колькі павінна быць тлушчаў і бялкоў у рацыёне, каб салдат мог паспяхова выконваць свае абавязкі.

Жан Лафіт, нумар 25519, быў адным з першых французаў, зняволеных у лагер Маутхаузен. Яго змясцілі ў барак 16 (адны называлі яго «барак марскіх свінак», другія — «барак смерці»).

— Доследы, якія яны праводзілі на нас, датычалі спецыяльнага рэжыму харчавання; правяралі яго дзеянне на чалавечы арганізм. Канцэнтраты нагадвалі вадкую кашу. Наколькі мы маглі меркаваць, яны складаліся з арганічных рэчываў і хімічных эрзацаў. Канцэнтраты выклікалі панос або запоры. Адна з такіх сумесей, у якой мы выявілі зерні неачышчанага аўса, праз некалькі гадзін выклікала смерць многіх зняволеных.

Нас узважвалі кожны тыдзень, абследавалі, і ўсё гэта ў суправаджэнні лаянкі і пабояў. Раз у месяц нас выводзілі пад узмоцненым канвоем з барака для больш стараннага абследавання і аналізу крыві, што яшчэ больш аслабляла нас. Увесь гэты час нас трымалі распранутымі дагала.

Смяротнасць у бараку 16 была значна большай, чым у лагеры, хворых не накіроўвалі ў лазарэт.

Зняволены з лагера Гюзен расказаў аўтару 8 студзеня 1967 года:

— Мяне змясцілі ў так званы «вашывы барак». Нас не выпускалі, каб вызначыць, колькі часу чалавек можа вытрымаць гэтых паразітаў... Бачыў я, як начальнік барака 31 «лячыў» хворых. У яго быў велізарны шпрыц, ён набіраў у яго змесціва дзесятка ампул, а потым дзівіўся вынікам свайго «лячэння»; усе яго пацыенты паміралі ў страшэнных пакутах.

Эксперыменты на людзях пастаянна праводзіліся ў канцэнтрацыйных лагерах. Рэтыя доследы пацягнулі за сабой смерць многіх зняволеных.

*«Фігаро-Літэрэр», Парыж.*

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

### КЛЯШЧЭЛІ

„Profesor zbrodni" (węgierski), „Sól ziemi czarnej" (polski), 29. IX — 4.X.

### ДУБІНЫ

„Tajemniczy mnich" (radz.), „Śmierć Indianina" (rumuński), 3—4. X.

### НАРАЎКА

„Lew pręży się do skoku" (węgierski), „ Przygody Tomka Saywera" (rumuński), 1—4. X.

### НАРВА

„Topkapi" (USA), „Więzy" (węgierski), 1—4. X.

### АРЭШКАВА

„Dożyjmy do poniedziałku" (radz.), „Kalejdoskop" (angl.), 3—4. X.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

### БОЦЬКІ

„Nowy" (polski), „Szczęśliwy Aleksander" (franc.), 1—4. X.

### ОРЛЯ

„Znicz olimpijski" (polski), „2 mamy i 2 ojców" (jugosł.), 1—4 X.

### РАЙСК

„Grawitacja" (jugosł.), „Na szlaku wojennych przygód" (czeski), 1—4. X.

## БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

### МІХАЛОВА

„Pamiętnik pani doktór" (franc.), 29—30. IX. „Testament gangstera" (franc.), 1—2 X. „Nie smuć się" (radz.), 3—4 X.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

### КРЫНКІ

„Falstaf" (angl.), 29—30. IX. „Banda Asa Kier" (radz.), 1—2 X. „Profesar zbrodni" (węgierski), 3—4. X.

### ЯНАЎ

„Sąsiedzi" (polski), 1—4. X.

## СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

### НУРЭЦ

„Ostatni lot" (radz.), 29—30. IX. „Na pomoc" (angl.), 1—2. X. „Cierpienia młodego Bohaczka" (czeski), 3—4. X.

### МЕЛЬНІК

„Śpiewa Ywes Montand" (radz.), 29—30. IX. „Grzech Azizy" (ZRA), 1—2. X. „Płomień nad Adriatykiem" (jugosł.), 3—4. X.

### МІЛЕЙЧЫЦЫ

„Zdobywcy nieba" (radz.), „Ostatni termin" (USA), 1—4. X.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

### СУХАВОЛЯ

„Sól ziemi czarnej" (polski), „Zbyszek" (polski), 1—4. X.

### НОВЫ ДВОР

„Włoch w Argentynie" (włoski), „Wiosna przy ulicy Zarzecznej" (radz.), 3—4. X.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. Nakład 5923 W—3



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

